# КРЫВІНКА

ЛЮТЫ
№ 2 (103)
2012 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА


"Нельга есці хлеб народа і грэбаваць ягонай мовай".
**Ул. Караткевіч.**



МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ВЫБАРЫ

Той, хто хоць крыху цікавіцца палітычнымі падзеямі, мае сёння добрую магчымасць параўнаць, як выбіраюць прэзідэнта ў Расеі з тым, як яго выбіраюць у нашай Беларусі.

Пры ўсёй падобнасці гэтага працэсу, паміж нашымі краінамі існуюць і кардынальныя адрозненні. Па-першае і галоўнае, гэта падыход да асвячэння падзей сродкамі масавай інфармацыі, і ў першую чаргу тэлебачаннем. Хаця і ў Расеі можна заўважыць некаторы перакос у выдзяленні эфірнага часу на карысць Пуціна, астатнія кандыдаты ў прэзідэнты маюць таксама нядрэнную трыбуну. Пра іх штодзень распавядае дзяржаўнае тэлебачанне: дзе яны сёння былі, што наведалі, з кім размаўлялі. І ніхто з іх не выстаўляецца ворагам Расеі, ніхто не пазбаўляецца права на карыстанне дзяржаўным тэлебачаннем, якое ў Беларусі даўно і надоўга ператваралася ў орган, які абслугоўвае толькі аднаго чалавека. Акрамя некалькіх 30-хвілінных выступаў саміх кандыдатаў у прэзідэнты, пра нашых кандыдатаў у прэзідэнты дзяржаўныя (!!!) журналісты або зусім не ўспамінаюць, або выключна паклёпнічаюць.

А як цікава паглядзець у выпуску навін, чым займаліся ў адзін і той жа дзень розныя кандыдаты. І як абрыдзеў бальшыні беларусаў – мяркую з асабістага досведу – на нашым тэлебачанні бясконцы маналог-павучанне таго, хто для чыноўнікаў стаў нават "крыху вышэй Бога". Расейскія кандыдаты выстаўляюць тэзісы, абвяргаюць іх, спрачаюцца, пераймаюць адзін у другога лепшыя ідэі. У нас жа падчас прэзідэнцкіх выбараў па ўсіх дзяржаўных каналах, ва ўсіх дзяржвыданнях ідзе траўля апазіцыі і шальмаванне кандыдатаў.

Электарат кандыдатаў у Расеі падчас кампаніі мае магчымасць бесперашкодна ладзіць мітынгі і дэманстрацыі, і нікога з існай улады тое асабліва не турбуе. Расейская паліцыя пры гэтым займаецца прывычнай справай: не разгонам мітынгуючых, а забяспячэннем бяспекі для ўдзельнікаў. Беларускай апазіцыі такое можа прысніцца хіба што ў самым салодкім сне. Бясконцыя правакацыі, прэвентыўныя затрыманні ні за што лідэраў апазіцыі, нібыта за лаянку ці дробнае хуліганства – вось невялікі пералік таго, як беларуская міліцыянты "дапамагаюць" дэмакратычным працэсам у Беларусі.

Тое, што на кожным участку ў Расеі будуць усталяваны камеры назірання, наогул сведчыць пра велізарную дыстанцыю ў ацэнцы аднолькавых палітычных падзей у нашых краінах. Беларускаму прэзідэнту за 18 гадоў кіравання, за які час адбыліся трое "выбараў" і столькі ж "рэферэндумаў", такое ў галаву чамусьці не прыйшло. І мудрыя дарадцы яму не падказалі.

Дык можа на хвалі прэзідэнцкіх выбараў у Расеі і тых дэмакратычных зрухаў, якія там адбываюцца, у нас нешта зменіцца? Напрыклад, перастануць пераследаваць апазіцыйныя газеты. Ці мінюст прыме Закон аб уведамляльным праве рэгістрацыі партый і пасля пятага(!!!) Устаноўчага з'езду зарэгіструюць БХД. Або ўключыш БТ, а там выступае Мілінкевіч ці Лябедзька і распавядае пра свае падыходы ў палітыцы. Мо Беларусь тады перастане быць Беларуссю?А можа наша жыццё толькі тады і стане сапраўды жыццём, а не сённяшнім пачварным злепкам з яго? Бо тыя, хто яго сёння ганьбіць і ламае людскія лёсы, будуць змушаны сысці, а замест прыстасаванцаў да ўлады прыйдуць патрыёты.

Гэта залежыць і ад нас з вамі. Ад таго, за якога кандыдата Вы будзеце галасаваць на наступных выбарах любога ўзроўню. І ці асмеліцеся пасля выбараў сказаць услых тое, пра што гаворыце пакуль што толькі па курылках і на кухнях.

**Г.Станкевіч.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ІГНАРАВАННЕ БЕЛАРУСКАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

У сярэду 8-га лютага заснавальніка і рэдактара газеты "Крывінка" запрасілі на абласны суд. Туды ён падаў свае паперы, нязгодны з тым, як вёўся працэс у Бешанковіцкім судзе. А менавіта абскарджвалася тое, што "Крывінцы" адмовілі ў карыстанні адвакатам, не даслалі своечасова абвінавачвальны пратакол, не забяспечылі працэс кваліфікаваным перакладчыкам.

Паседжанне абласнога суда вялося таксама на расейскай мове. Праўда, на гэты раз на яго замовілі перакладчыка. Але суддзя не стала ўдакладняць моманты парушэння заканадаўства суддзёй Белавус В.А., а хуценька зачытала загаддзя падрыхтаваны вырак – пакінуць хадайніцтва заснавальніка і рэдактара "Крывінкі" без задавальнення. Пасля гэтага запыталася, на якой мове ёй трэба дасылаць судовае рашэнне. Тое, што з 22-га студзеня ўступіў у сілу Закон, які гарантуе атрыманне адказаў на мове звароту, чамусьці суддзя абласнога суда не ведала.

"Крывінка" не спыніць свайго змагання. Рыхтуюцца паперы ў чарговыя інстанцыі, калі патрэбна і міжнародныя.

Між тым на тэлефон рэдакцыі патэлефанавалі адказныя асобы з Нацыянальнай кніжнай палаты і Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Яны дзякавалі за дасланы апошні нумар газеты, паведамілі некаторыя тэхнічныя заўвагі і прасілі, каб у гэтыя ўстановы "Крывінка" даслала ўсе нумары, якія маюцца ў наяўнасці. Ніякіх заўваг наконт таго, што газета не можа выдавацца ці парушаецца нейкі артыкул Закона аб СМІ пры гэтым зроблена не было.

Усё гэта таксама сведчыць, што працэс над газетай быў заказаны мясцовымі чыноўнікамі, якія не хочуць выпраўляць тыя недахопы, пра якія піша газета. Магчыма, рэдактару і заснавальніку трэба перадаць пералік некаторых асабліва вострых артыкулаў у Камітэт Дзяржкантролю РБ, каб там пазнаёміліся, што замінае Бешанкоўшчыне развівацца больш імкліва.

**М.Васільеў.**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ТАКІЯ РОЗНЫЯ ЮБІЛЕІ

У студзені гэтага года адразу два раённых чыноўнікі адсвяткавалі свае 60-гадовыя юбілеі. 60-годдзе І.А.Жарабцова, начальніка раённага аддзела адукацыі, было заўважана раённай газетай, і на першай яе старонцы з'явіўся вялізны фотаздымак юбіляра і ягоных абласных куратараў з такім жа вялікім віншавальным артыкулам. А вось 60-годдзе М.Я.Барзенкова, галоўнага ўрача раённай бальніцы, для раённай газеты прайшло незаўважаным. "Не заўважылі" яго таксама раённыя і абласныя чыноўнікі, якія не адгукнуліся на тую падзею ніводным друкаваным словам. Як жа такое магло здарыцца ў нашай дэмакратычнай краіне, калі чыноўнік працуе на пасадзе большую палову свайго жыцця, аддае ўсяго сябе справе, а віншавання з юбілеем, няхай і на апошняй старонцы былога органа раённай улады, не заслугоўвае?

Злыя языкі сцвярджаюць, што былы ўжо галоўны ўрач вінаваты ў такіх адносінах да сябе сам. Ён, нібыта, падчас святкавання свайго юбілею (а гэта было трэцяга студзеня) паехаў кудысьці на дзяржаўнай машыне, перакуліў яе і сам пры гэтым атрымаў пашкоджанні. Як гэта водзіцца ў кожнай дэмакратычнай краіне, ніякой крымінальнай справы супраць яго ўзбуджана не было. Наадварот, яго ціхенька звольнілі з пасады і без вялікіх урачыстасцей ён мусіў з'ехаць з раёна, кажуць, кудысьці ў Расею, дзе і працягвае сваю пасляпенсійную кар'еру.

Так гэта было ці не "Крывінка" падцвердзіць не можа, бо ніякімі матэрыяламі наконт гэтых падзей не валодае. А вось чаму маўчыць раённая "Зара", якая згодна з яе статусам з'яўляецца грамадска-палітычнай газетай і мае свой офіс недалёка ад райвыканкама, дзе, пэўна, ведаюць усе падрабязнасці справы – невядома. Газета-манапаліст інфармацыі займае свае старонкі красвордамі, перадрукам навін ды фотаздымкамі райвыканкамаўскіх "зорак", а мусіла б аб'ектыўна і поўна данесці да сваіх чытачоў інфармацыю пра падзеі, якія непасрэдна тычацца нашага раёна. Бо замоўчванне цікавай інфармацыі нараджае масу чутак, якія часта перакручваюць інфармацыю да непазнавальнасці. Усё тое не можа не адбівацца на папулярнасці адзінага ў раёне падпіснога выдання.

Мажліва, каб падзеі ў раёне знаходзілі на старонках "Зары" аб'ектыўнае адлюстраванне, і падпісчыкаў не прыходзілася б шукаць усімі законнымі і незаконнымі сродкамі?

"Крывінка" задае пытанне сваім чытачам, у тым ліку і тым, якія працуюць на розных пасадах у райвыканкаме: "Калі і ад каго, на Вашу думку, мы зможам даведацца ўсю праўду пра студзеньскія падзеі ў райбальніцы?"

**Г.Станкевіч.**

**P.S.** Абодвух юбіляраў "Крывінка" віншуе з іх круглай датай і зычыць ім доўгія і шчаслівыя гады.

### "Я шукаў на Радзіме Радзіму..."

*Скажуць, гэткае немагчыма,*
*Ды чаго не бывае ў жыцці –*
*Я шукаў на Радзіме Радзіму*
*І не мог яе доўга знайсці.*

*Быццам чорная хмара навісла*
*Над прасцягам палеткаў і траў,*
*Быццам нехта чужы, ненавісны*
*Ад мяне маё шчасце схаваў.*

*Колькі я не ўглядаўся ва ўзлессі,*
*Як ні слухаў дыханне начэй,*
*Не хапала матулінай песні,*
*Не хапала вясёлых вачэй.*

*З беларускаю крыўдай адвечнай*
*Я спытаўся азёр і дуброў,*
*Што за час, што так душы знявечыў,*
*Што за лёс, што так край абакраў.*

*І ў адказ, як апошняя слова,*
*Мне шапнуў занядужаны кут:*
*– Ты ў сябе запытайся сурова,*
*Ты сабе абвясці свой прысуд...*

**Г.Бураўкін.**

### "КРЫВІНКА" Ў ІНТЭРНЭЦЕ

У сувязі з праблемай размяшчэння газеты "Крывінка" на партале http://haradok.belarda.org/ наша газета стала будзе размяшчацца на партале **http://kamunikat.org/**, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: **http://kamunikat.org/kryvinka.html**, што у каталогу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.

### АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя «Крывінкі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Крывінка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

# “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

Поўная назва арганізацыі – Рэспубліканскае грамадскае аб’яднанне “ТБМ імя Францішка Скарыны”. Яна існуе ў Беларусі ўжо больш дваццаці гадоў. Я з’яўляюся яе сябрам з 2001-га года і маю пасведчанне за нумарам 1068. Арганізацыя афіцыйна зарэгістравана, мае офіс ў цэнтры Менска па вуліцы Румянцава,13 і некалькі тысяч сяброў па ўсёй краіне. Арганізацыя аб’ядноўвае людзей, якія маюць жаданне чуць родную мову і размаўляць на ёй. Таварыства мае свой друкаваны орган – газету “Наша слова”, якая выходзіць штотыдзень на васьмі старонках. Яе падпіска на месяц каштуе 3 100 рублёў. Падпісацца на газету можна ў любым паштовым аддзяленні.

З 1999-га году старшынём таварыства з’яўляецца Трусаў Алег Анатольевіч – беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук, які праводзіў раскопкі ў шэрагу беларускіх гарадоў. Сябры арганізацыі плацяць сяброўскія складкі, за кошт якіх праводзяцца розныя мерапрыемствы, а таксама аплочваецца арэнда офісу. Памер складак невялікі: для працуючых – 25 000 рублёў за год(то бок, крыху больш за 2 000 у месяц), для пенсіянераў – 10 000 рублёў, для студэнтаў – 5000, для школьнікаў – 3 000. Кожны сябар арганізацыі мае прыгожае пасведчанне з фотакарткай, якое каштуе 5 000 рублёў.

Чым жа займаецца таварыства? Асноўная яго задача ¬– захаванне і пашырэнне колькасці карыстальнікаў роднай мовы. Таварыства штогод зацвярджае план сваёй дзейнасці. У ім прадугледжваецца правядзенне канферэнцый па важных пытаннях, выпуск друкаванай прадукцыі з нагоды розных юбілеяў, святкаванне гэтых юбілейных датаў. Таварыства змагаецца за адкрыццё беларускамоўных класаў, піша шматлікія лісты дзяржаўным установам, дзе патрабуе выканання законаў або прапаноўвае новыя падыходы ў вырашэнні моўнага пытання.

Вось некалькі апошніх дасягненняў таварыства. З падачы ТБМ з 22-га студзеня ўступіў у сілу Закон “Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў”. Сярод іншых ён утрымлівае патрабаванне, каб адказы накіроўваліся заяўніку на мове звароту. Ужо ў лютым 2012-га выходзяць з друку “Правілы дарожнага руху” на беларускай мове.

Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны падрыхтавана канцэпцыя праекта Закона Рэспублікі Беларусь “Аб дзяржаўнай падтрымцы беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь”. З ёю можна пазнаёміцца ў першым нумары “Нашага слова”. ТБМ зыходзіць з таго, што беларуская дзяржава, як вышэйшая форма арганізацыі беларускай нацыі нясе поўную і аднаасобную адказнасць за беларускую мову. Таму яна павінна ажыццяўляць заканадаўчую, фінансавую і арганізацыйную падтрымку беларускай мовы ў формах і аб’ёмах, дастатковых для яе паўнавартаснага развіцця.

Я звяртаюся да ўсіх чытачоў “Крывінкі”. Паважаныя сябры! Калі Вы не хочаце заставацца ўбаку ад цікавай працы, калі вы адчуваеце, што беларуская мова – гэта ваша стыхія, станавіцеся сябрамі ТБМ. Для гэтага трэба патэлефанаваць на мой тэлефон. Я дапамагу Вам вырашыць усе арганізацыйныя праблемы.

Некалі наступіць час, калі наша слова будзе вольна гучаць на ўсёй беларускай зямлі. Той, хто паспрыяе гэтаму сёння, дапаможа зрабіць тое найхутчэй. Толькі разам з Вамі мы зможам дамагчыся, каб беларуская мова на нашай зямлі загучала на поўны голас.

**Сябра ТБМ Г.Станкевіч.**

ЗІМОВАЯ ПРАБЛЕМА

# ЯК ДА БАБУЛІ ДАРОГУ РАСЧЫСЦІЛІ

У вёсцы Старыя Ранчыцы жывуць пераважна пажылыя людзі. Тыя, хто дзесьці працуе, будуць хутчэй выключэннем, чым правілам. А вёска вялікая па памеры, цягнецца ўздоўж Крывінкі на два з гакам кіламетры. Палову хацін тут займаюць, як мы кажам, “дачнікі”, тыя, хто жыве тут толькі ўлетку. Але ж і сталых жыхароў у Ранчыцах пражывае больш за сотню.

Добра ў Ранчыцах улетку, што ні кажы. А вось зімой клопатна. І галоўны клопат – расчыстка дарогі ад снегу. А яго сёлета падкідвае і падкідвае з нябеснай канцыляры, толькі паспявай расчышчаць сцяжыны. Ды кожны вясковец каля сваёй хаты трымае іх у поўным парадку, будзьце пэўныя. А вось каб пачысціць грамадскую дарогу, улады турбуюцца слаба. А людзі шукаюць праўды у той жа ўлады.

Вось і мая суседка баба Люба прыхварэла, вырашыла падлячыцца, ды расхвалявалася, што хуткая дапамога да яе хаціны не даедзе. Пачала яна названьваць у сельскі савет, бо дзе ж яшчэ старой шукаць дапамогі? Адтуль запэўнілі, сам старшыня адказаў, што дарогу расчысцяць. Супакоілася баба Люба, ды толькі ненадоўга. Бо мінуў і дзень, і другі, і трэці. І тыдзень прайшоў, і хуткая дапамога прарвалася праз снягі, даехала, а на дарозе праз вёску Старыя Ранчыцы і сабака не валяўся.

І такая сітуацыя у вёсцы ўсе апошнія зімы. Выключэнне, хіба, тыя зімы, калі адбываюцца прэзідэнцкія ці яшчэ якія-небудзь выбары. Тады цягам двух тыдняў да выбараў дарогу даглядаюць. Праўда, толькі два тыдні, а потым зноў-такі забываюцца на вяскоўцаў. А сёлета ўзімку выбараў ніякіх не плануецца, таму пытанне аб палітычнай значнасці гэтага мерапрыемства не стаіць на абвестцы дня, вось і прыціхла ўлада.

Яно то і праўда, адкуль таму сельсавету ўзяць грошы на расчыстку дарог, калі сваёй тэхнікі няма? Калі гэта так, дык трэба прызнаць, што грошай на расчыстку не хапае, ды сабраць з вяскоўцаў. Плацім жа мы розныя падаткі – за пашу для кароў, за соткі. Нават за смецце, якое ад нас то адвозяць, то забываюцца.Чаму б не сабраць з нас грошы і на расчыстку дарог. Скажам, па 20 000 рублёў на сезон, ці па 40 000. Глядзіш, некалькі мільёнаў на адной вёсцы і атрымаецца. Пры цяперашніх коштах на паліва гэтага дастаткова, каб купіць паўтоны саляркі. А на адну поўную расчыстку вясковай вуліцы пасля любога снегападу дастаткова і трыццаці-пяцідзесяці літраў. Вось і хопіць на 10 –15 расчыстак.

Дык няўжо ж падобныя арыфметычныя дзеянні чыноўнікі не могуць выканаць самі? Вяскоўцы ж ніколі не адмаўляліся дапамагчы, калі справа тычыцца ўсіх.

Хто ж патурбуецца пра вясковыя дарогі?

**Г.Станкевіч.**

# ХТО ПАКЛАПОЦІЦЦА ПРА ПРОСТАГА ЧАЛАВЕКА?

Агульнавядома: лепей быць здаровым і багатым, чым бедным і хворым. Але ў нашай краіне чыноўнікі яўна думаюць інакш. Бо чым тады можна растлумачыць некаторыя іхнія рашэнні.

Скажам, у раённым РЭСе з новага года ўвялі новую практыку налічвання грошай за бальнічныя лісты. Людзі ў гэтай арганізацыі працуюць пазменна, і, калі электрык захварэў, то па бальнічнаму лісту па новай методыцы яму налічваюць грошы толькі за тыя дні, якія б былі рабочымі. Раней жа аплочваўся цалкам увесь бальнічны ліст. Для арганізацыі такая методыка дазваляе “зэканоміць” шмат грошай. А для таго, хто працуе цяжкія дванаццацігадзінныя змены ў любое надвор’е, цяпер трэба не прастуджвацца. Бо па бальнічнаму лісту ён мусіць атрымаць значна менш, чым гэта было раней, і чым ён атрымоўвае на сваёй працы.

Прынятае ў РЭСе рашэнне яўна супярэчыць існуючаму заканадаўству. І калі мы мелі б нармальныя прафсаюзы, якія б стаялі на варце інтарэсаў простага чалавека, то яно яўна не прайшло б. Але ж існуючыя прафсаюзы з’яўляюцца ў Беларусі толькі дадаткам адміністрацыі: яны разам дзьмуць у адну і тую ж дудку. Ніводзін старшыня прафкама не будзе спрачацца за інтарэсы простага работніка.

А вось той, хто працуе штодзённа па 8 гадзін, пад тое рашэнне не пададае. А гэта, як вядома, начальнікі і бугалтэрыя. Яны цалкам задаволены новаўвядзеннем, ды яшчэ ў канцы года прэмію атрымаюць за эканомію фонда зарплаты.

**М.Васільеў.**

НАША БЮРАКРАТЫЯ

# ЧЫНОЎНІКІ І ПАЖАРЫ

Сёлетняя зіма зноў-такі падкінула некалькі марозных тыдняў. І, як тое заўсёды здараецца ў такіх выпадках, людзі пачалі мерзнуць і абагравацца чым папала. А значыць пачасціліся пажары і з’явіліся пацярпелыя.

Надыход халадоў у навучальных установах чамусьці супадае з рэзкім павелічэннем колькасці папер, якія дасылаюць чыноўнікі зверху, каб адвесці ад сябе небяспеку. Тыя паперы абавязваюць настаўнікаў у чарговы раз абысці хаты, дзе жывуць іхнія вучні, з мэтай папярэджання пажараў. То бок, настаўнік мусіць праверыць, ці застаецца цягам дня дзіця ў хаце адно, ці нарыхтаваны дровы, які стан пячнога ацяплення і г.д. Складаецца ўражанне, што настаўнік і ёсць тая апошняя адзінка, стрэлачнік, на якога можна павесіць усё, каб зняць з сябе адказнасць. Яму няма магчымасці напісаць ніжэйшай інстанцыі чарговую паперыну. Яму застаецца толькі ўзяць кельму ды пайсці выпраўляць печкі, рамантаваць дымаходы ды калоць дровы. А армія чыноўнікаў, сярод якіх ёсць і тыя, што мусяць непасрэдна адказваць за пажаранебяспечную сітуацыю, сідзяць сабе і чакаюць звестак ад настаўнікаў.

Што ж, настаўнікі людзі адказныя. Яны – асабліва сельскія – наведваюць сваіх падапечных цягам навучальнага года не аднойчы. Але як жа можа паправіць справу складзеная чарговая папера? Пакуль яна дойдзе да патрэбнага чыноўніка, пажар можа знішчыць наступную сям’ю. І такое, на жаль, адбываецца. І тады зноў пішуцца чарговыя паперы і ляцяць з плячэй галовы стрэлачнікаў.

**Г.Станкевіч.**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ПАВЫСІМ НАДОІ, ПАВЯЛІЧЫМ ПРЫВАГІ!

Як былы работнік аграпрамысловага комплексу і як чалавек, які сёння вядзе немалую гаспадарку, я заўсёды цікаўлюся навінамі раённага АПК. Дваццаць пяць гадоў таму я паўгода ўзначальваў раённую агранамічную службу, потым тры гады працаваў старшынёй калгаса, а таму магу аб’ектыўна параўнаць сённяшні стан рэчаў з тагачасным. Шчыра сказаць, анічога ў падыходах да сельскай гаспадаркі за 25 гадоў, якія мінулі з таго часу, не змянілася. Патлумачу чаму.

Просты чалавек сёння пастаўлены ў такія ўмовы, што над ім стаіць дзесятак начальнікаў, як гэта было і тады, калі мы будавалі камунізм. Бо сутнасць калгасаў не змянілася. Прыкладам, у жывёлагадоўлі поўнасцю захавалася ранейшая структура кіравання. Над даяркай ці цялятніцай стаіць загадчык фермы, заатэхнік, ветэрынар. Раней у калгасе быў старшыня партыйнай арганізацыі, а цяпер ён называецца намеснік кіраўніка па ідэалагічнай працы. А калі яшчэ на Дзень жывёлавода на ферму разам з калгасным завітвае раённае начальства, то ў бедных жывёлаводаў у галаве не можа не ўзнікнуць справядлівая думка: “Колькі ж вас, дармаедаў, мы мусім карміць?!”

Недасведчаны чытач можа запярэчыць: маўляў, а як жа інакш можна працаваць на сяле? Адкажу яму, што акрамя калгасна-прыгонніцкай сістэмы ў свеце існуюць і іншыя, дзе людзі працуюць самі на сябе. Нарыклад, на свінагадоўчай ферме ў Нямеччыне, дзе я ў 1991-м годзе адпрацаваў чатыры месяцы, утрымлівалася больш за 1000 галоў свіней розных узростаў. (Дарэчы, ферма была заснавана ў 1955-м годзе.) Там быў поўны цыкл вырошчвання ад пакрыцця свінаматкі да здачы кандыцыйных 105-кілаграмовых свіней на бойню. Па маіх разліках, гэты адзін фермер за год мусіў пастаўляць дзяржаве звыш 70-ці тон мяса! Лічба, нечуваная для калгасаў.

Гэта была звычайная ферма, якіх у Нямеччыне тысячы. Незвычайным для чалавека савецкага тыпу там было хіба што тое, што на ферме не было ні загадчыка фермы, ні ветэрынара, ні бухгалтара, ні падвозчыкаў корму. Не было, зразумела, і ідэолага. Фермер не насіў звання “Ударнік капіталістычнай працы”. Не быў ён занесены і на Дошку гонару. Не было тут і арміі чыноўнікаў, якія тыя дошкі рыхтуюць. Бо ў Нямеччыне не было кантынгенту, якому трэба было б тлумачыць, як ён мусіць правільна працаваць. Не было тут і Дня жывёлавода. Былі толькі высокія прывагі сівіней і парадак на ферме. Адзінаму работніку, які ў яго стажыраваўся і крыху дапамагаў весці тую гаспадарку,(то бок мне) фермер плаціў кожны дзень каля 300 000 (у пераліку на нашы сённяшнія беларускія рублі). Акрамя таго карміў, апранаў і даваў прытулак. Згадзіцеся, 9 мільёнаў у месяц – ніdroднае... 

Пра перавагі нямецкай сістэмы можна распавядаць доўга. Я ж абмяжуюся толькі адной яшчэ заўвагай. Калінебудзь наша сістэма ўсё ж разваліцца. Як развалiўся аднойчы вялікі і магучы СССР. Бо заснавана яна не на эканамічных законах, а на прымусовай працы чалавека, якому некуды дзецца. Які п’е не толькі таму, што не можа не піць, а яшчэ і ад безвыходнасці.

Гісторыя такому “развіццю” даўно вынесла свой вырак. Шкада толькі, што мы згубілі столькі часу з моманту атрымання незалежнасці – больш дваццаці гадоў. За гэты час у Беларусі мог узнікнуць моцны ўласнік, аздаравіцца вёска, якая сёння амаль захлынулася гарэлкай.

**Г.Станкевіч.**

ПОГЛЯД ЛІДЭРА

# ПРАШЭННЕ ЛУКАШЭНКУ – ЯК ЛІСТ Д'ЯБЛУ

ЗЯНОН ПАЗЬНЯК: «У ЯКІЯ ЯШЧЭ МАЗГІ МОГУЦЬ ПРЫЙСЦІ ТАКІЯ ПАВОДЗІНЫ — КІНУЦЬ ЛЮДЗЕЙ У КАМЕРУ І КАТАВАЦЬ — «ПІШЫ МНЕ ПРАШЭННЕ, КАБ Я ЦЯБЕ ВЫЗВАЛІЎ!».

«Некаторыя палітвязьні не вытрымалі ціску і напісалі прашэнне аб памілаванні, і ў беларускім грамадстве ідзе дыскусія, ці гэта было слушнае рашэнне? Якой меркай людзі на свабодзе могуць ацэньваць гэтае рашэнне? Якое Ваша стаўленне, і які будзе лёс палітвязняў?» — запыталася ў нацыянальнага лідара радыё «Свабода».

Зянон Пазняк адказаў так. «Тут ёсць два аспекты. Адзін — палітычны аспект, гэта вельмі цяжкі аспект, бо ён поўны абсурду. Чалавека кінулі ў турму, з яго здзекуюцца і катуюць, каб ён напісаў прашэнне аб вызваленні. Поўны абсурд! Але гэта абсурд мае пад сабой шызафрэнічную логіку. Ідзе барацьба за душу чалавека, каб потым самаісна распараджацца ягонай душой. Калі чалавек падпіша такое прашэнне, значыцца, кат мае пэўнае алібі — ён, як кажуць, свабодна можа прадаваць гэты тавар, у залежнасці ад кан'юнктуры.

У якія яшчэ мазгі могуць прыйсці такія паводзіны — кінуць людзей у камеру і пачынаць іх катаваць — «пішы мне прашэнне, каб я цябе вызваліў!». Дык вось, у гэтым сэнсе, у палітычным, трэба разумець, што падпісанне такога прашэння — гэта тое самае, што падпісаць ліст д'яблу. Гэта трэба разумець, якія з гэтага будуць вынікі і высновы.

Другі аспект вельмі істотны. Што людзей, якіх катуюць у турме, каб яны пісалі прашэнне і гэтак далей, — гэты абсурд датычыцца толькі іх. Яны не павінны, як кажуць, гуляць у напарстак з катам.

«Трэба табе прашэнне — калі ласка, бяры сваё прашэнне!». Бо ўсе бачаць, якім чынам выбіваюць гэтыя прашэнні. Яны не маюць ніякай віны тут.

Каб ад іх патрабавалі «закласці» таварыша, нейкага выдаць, нейкага агаварыць — гэта іншая справа, тады трэба, як кажуць, стаяць моцна. Тут зусім іншае, тут цябе прымушаюць гуляць у напарстак. Не трэба з катам гуляць у напарстак. І таму, тое, што гэтыя людзі гэта напісалі, калі ён выбіваў іхняе прашэнне — гэта якраз абсалютна рацыянальны і разумны ход.

Іх ніхто іх за гэта не асудзіць. Яны нікога не прадалі, нікога не выдалі, нікому дрэнна не зрабілі, акрамя як сабе. Ды і сабе ў дадзеным выпадку нічога дрэннага яны не зрабілі, акрамя таго, што вось падпісалі гэты ліст д'яблу.

Таму што гэтым справа не скончыцца, ён будзе гандляваца, будзе гэта выкарыстоўваць, працягнецца далейшы ціск. Гэта трэба заўсёды памятаць. І грамадскасць, якая назірае за гэтым, павінна разумець такія рэчы. Ведаеце што, я ўпершыню з такім спаткаўся, каб як кот з мышкам кат гуляў з людзьмі.

Укінуць у камеру, катаваць — «пішы мне прашэнне!». Вось якая логіка гэтага абсурду і маразму. Трэба з гэтым разабрацца і грамадству, і, я думаю, самі вязні з гэтым разбяруцца.

Гэта не выключае, безумоўна, вельмі небяспечнай сітуацыі для іх у сувязі з гэтым падпісаннем, але ў маральным сэнсе гэта абсалютна прымальна, пісаць такія цыдулкі, каб не гуляць зь ім у брудныя гульні.

**Паводле радыё «Свабода».**

ПАДАЙЦЕ!

# МІНСК ВЫСТАВІЎ МАСКВЕ НОВЫ РАХУНАК ЗА ГАТОЎНАСЦЬ «ЛЕГЧЫ ПАД ТАНКІ НАТА»

БЕЛАРУСКАЕ КІРАЎНІЦТВА НА ПАДСТАВЕ ПАВЫШЭННЯ ДАБРАБЫТУ ВАЕННЫХ ХОЧА ПАВЯЛІЧЫЦЬ ЎКЛАД РАСІІ Ў ФІНАНСАВАННЕ АБАРОННЫХ ВЫДАТКАЎ КРАІНЫ. НЕКАЛЬКІ НЯЗГРАБНЫЯ ЗАЯВЫ НА ГЭТЫ КОНТ ВЫКЛІКАЛІ РЭЗКУЮ КРЫТЫКУ З ВУСНАЎ ЎНУТРАНЫХ АПАНЕНТАЎ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ. АДБІВАЮЧЫСЯ АД АБВІНАВАЧВАННЯЎ У «ЗДРАДЗЕ РАДЗІМЫ», УЛАДАМ ПРЫЙШЛОСЯ УДАКЛАДНЯЦЬ СВАЮ ПАЗІЦЫЮ.

6 лютага на сустрэчы з кіраўніком Савета бяспекі Леанідам Мальцавым і міністрам абароны Юрыем Жадобіным Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву, з якога вынікае, што беларускім ваенным неабходна падымаць зарплату, арыентуючыся на расійскі ўзровень.

Паводле слоў прэзідэнта, беларуская і расійская арміі сёння практычна вырашаюць агульныя задачы (і ў гэтым плане дэ-факта з'яўляюцца адзінай войскам). Аднак памер грашовага забеспячэння ваенных Беларусі і Расіі адрозніваецца. Такое становішча павінна быць зменена, падкрэсліў афіцыйны лідэр.

Адзначым, што па дадзеных, апублікаваных у прэсе, з 1 студзеня 2012 года аплата працы расійскіх вайскоўцаў павялічана ў 2,5-3 разы. Пенсіі адстаўнікоў выраслі ў 1,5-2 разы. У выніку расейскія ваенныя цяпер зарабляюць значна больш, чым беларускія калегі.

Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што накіраваў Дзмітрыю Мядзведзеву ліст «аб неабходнасці пошукі дадатковых сродкаў для беларускіх вайскоўцаў за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Са словаў беларускага прэзідэнта вынікае, што, згодна з папярэдняй дамоўленасці, Мядзведзеў паабяцаў дапамагчы.

Між тым, як вынікае з паведамленняў СМІ, некаторыя палітычныя апаненты палічылі гэтую просьбу прэзідэнта і галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Беларусі «абразай беларускіх вайскоўцаў».

На думку крытыкаў, удзел расійскага бюджэту ў фінансаванні беларускай арміі з'яўляецца для краіны яшчэ большай небяспекай, чым пераход на расійскі рубель, бомбай запаволенага дзеяння, закладваецца пад незалежнасць і нацыянальную бяспеку. Лагічным вынікам такой палітыкі стане адпраўка па ўказцы Расіі беларускіх вайскоўцаў у гарачыя кропкі на постсавецкай прасторы, мяркуюць ўнутраныя апаненты Лукашэнкі.

Уяўляецца, аднак, што падобнага роду ацэнкі носяць хутчэй эмацыйны характар. У заканадаўстве Беларусі няма юрыдычных падстаў ні для найму дзеючых беларускіх ваенных якім-небудзь замежнай дзяржавай, ні для выкарыстання іх у баявых дзеяннях за межамі дзяржавы. Нават удзел у міратворчых місіях пад эгідай ААН - справа асабліва добраахвотнае, рашэнне па кожнай кандыдатуры прымаецца ў індывідуальным парадку.

Сама ж па сабе чарговая просьба Аляксандра Лукашэнкі аб матэрыяльнай дапамогі, звернутая да ўсходняй суседцы, не з'яўляецца чымсьці экстраардынарным. Такога роду звароту ўжо даўно з'яўляюцца неад'емнай часткай адносін Мінска і Масквы, якія будуюцца па прынцыпе: абаронна ваенна-стратэгічных і геапалітычных інтарэсаў Расеі ў абмен на эканамічныя прэферэнцыі для беларускага рэжыму.

Сутнасць матывацыі звычайна зводзіцца да таго, што без падтрымкі Расеі Беларусі складана і цяжка выконваць свае функцыі па абароне заходніх рубяжоў Саюзнай дзяржавы.

Праўда, раней у большасці выпадкаў размова ішла аб дапамозе хоць бы ўзбраеннем. І трэба адзначыць, што Масква не адмаўляла. Дастаткова ўспомніць аб пастаўцы некалькі гадоў таму зенітных ракетных комплексаў (ЗРК) С-300 па значна больш нізкіх, чым на сусветным рынку, цэнах. Або аб зусім нядаўнім набыцці мабільных ЗРК «Тор-2М» па ўнутрырасейскіх расцэнках.

Але гэтым справа не абмяжоўваецца. Расейцы бяруць на сябе ільвіную долю выдаткаў на сумесныя ваенныя вучэнні, пастаўляюць на льготных умовах запасныя часткі, расходныя, гаруча-змазачныя матэрыялы і г.д.

І хоць Аляксандр Лукашэнка перыядычна накарае на скнарлівасці саюзніка, эканомія сродкаў ваеннага бюджэту за кошт падобных льгот атрымліваецца для Мінска досыць значнай, з'яўляецца магчымасць вызваляць вызвалення грошы на іншыя патрэбы сваіх вайскоўцаў. У тым ліку і на іх грашовае забеспячэнне.

Як уяўляецца, і ў свежым выпадку маецца на ўвазе аналагічная дапамогу. Заўважце: у нашумелай заяве беларускага прэзідэнта гаворыцца аб пошуку сродкаў «за кошт розных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі і Расеі». Проста цяпер беларускаму кіраўніцтву палітычна выгадна падкрэсліць, што яно дбае не аб страляючых жалезках, а менавіта аб павышэнні дабрабыту вайскоўцаў. Прасцей кажучы, гэта рэверанс, накіраваны на задобранне сілавікоў.

Бо людзі ў вайсковых пагонах, як і ўсе бюджэтнікі, панеслі значны матэрыяльны ўрон у выніку дэвальвацыі нацыянальнай валюты, гіперінфляцыі. Што наўрад ці станоўча адбілася на настроях думак вайскоўцаў. А пытанні лаяльнасці арміі і сілавых ведамстваў не можа ігнараваць ніякая, нават калі заўгодна шчасная ўладу.

Да таго ж паражальнае адставанне ў даходах можа падштурхнуць немалы лік афіцэраў беларускай арміі і кантрактнікаў да пакідання яе шэрагаў і пераходу пад расейскія сцягі (нават нягледзячы на рызыку апынуцца ў гарачых кропках). Але ж прафесійная падрыхтоўка гэтых людзей каштавала беларускім падаткаплацельшчыкам велізарных сродкаў.

Падобна, менавіта гэтымі меркаваннямі і кіраваўся Аляксандр Лукашэнка, згадаўшы аб згодзе прэзідэнта Расіі адгукнуцца на яго просьбу аказаць дапамогу беларускім вайскоўцам. Вось толькі форма гэтай заявы апынулася не вельмі ўдалай, чым адразу і скарысталіся палітычныя праціўнікі.

У выніку праз пару дзён акцэнты давялося расстаўляць міністру абароны Жадобіну. Паводле яго версіі, «СМІ растыражавалі насельніцтву некарэктную інфармацыю» адносна павышэння грашовага забеспячэння вайскоўцаў.

«Магло скласціся ўражанне, - адзначыў генерал Жадобін, - што на той сустрэчы размова ішла аб неабходнасці пошукі для беларускіх вайскоўцаў дадатковых сродкаў з бюджэту Расеі. На самай справе падкрэслівалася: паспяховае ваеннае супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі можа стаць адным з аргументаў на атрыманні прэферэнцый ў эканамічных пытаннях, напрыклад, у дачыненні да пошлін на нафту або газ, якія дазволяць папоўніць бюджэт краіны і даць магчымасць павысіць грашовае ўтрыманне нашых вайскоўцаў ».

Такім чынам, наша здагадка пацвярджаецца. Мінск зноў выкарыстоўвае выпрабаваных формулу: Маскве прапанавана стымуляваць эканамічнымі прэферэнцыямі міфалагізаваную гатоўнасць беларусаў «легчы пад танкі НАТА».

**Аляксандр Алесін.**

ДА 800 ДАЛЯРАЎ

# ГРАНДЫЁЗНЫЯ ПЛАНЫ СНАПКОВА

У БЕЛАРУСІ ДА 2015 ГОДА З ТРАДЫЦЫЙНЫХ ГАЛІН ЭКАНОМІКІ БУДУЦЬ ЗВОЛЬНЕНЫЯ КАЛЯ 280 ТЫС. РАБОТНІКАЎ. ПРА ГЭТА ПАВЕДАМІЎ 7 ЛЮТАГА МІНІСТР ЭКАНОМІКІ МІКАЛАЙ СНАПКОЎ. ПАВОДЛЕ ЯГО ЗАПЭЎНЕННЯЎ, ВЫЗВАЛЕНЫЯ РАБОТНІКІ БУДУЦЬ ПЕРАНАКІРАВАНЫЯ НА НОВЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ, ЯКІЯ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПЛАНУЕЦЦА СТВАРЫЦЬ. ГЭТА ПАВІННА ПРЫВЕСЦІ ДА ДАСЯГНЕННЯ МІНІМАЛЬНАЙ ЗАРПЛАТЫ Ў 800 ДАЛЯРАЎ.

Такія планы ўладаў абумоўлены незбалансаванасцю росту прадукцыйнасці працы і росту заработнай платы, што ўяўляе пэўныя рызыкі, растлумачыў кіраўнік мінэканомікі на пасяджэнні Савета міністраў.

Работнікаў плануецца перанакіраваць на высокапрадукцыйныя працоўныя месцы, што дазволіць пазбегнуць адтоку кваліфікаваных кадраў з-за нізкага ўзроўню заробкаў у Беларусі, перадае БелТА.

## Снапкоў абяцае заробкі да 800 даляраў

«Дабаўленая вартасць, якую мы дасягнем ў 2015 годзе, пры неабходнасці дасягнення мінімальнай зарплаты ў 800 даляраў - адпаведным чынам на гэтую дабаўленую вартасць павінна быць колькасць занятых. Астатняя колькасць вызваляецца. Адпаведна, людзі будуць занятыя на новых высокаэфектыўных вытворчасцях», - заявіў Мікалай Снапкоў.

Як адзначыў міністр, на традыцыйных вытворчасцях зарплаты вырастуць за кошт зніжэння колькасці работнікаў, а на новых яны будуць расці за кошт дасягнення высокага ўзроўню дабаўленай вартасці.

Для стварэння новых высокапрадукцыйных вытворчасцяў, па словах кіраўніка мінэканомікі, да 2015 года неабходна прыцягнуць каля 38 млрд даляраў інвестыцый, з якіх 23 млрд пойдуць на набыццё машын і абсталявання.

«Прадукцыйнасць - асноўная задача на наступныя чатыры гады. Амаль дзве трацыны даследаванняў па эканоміцы разглядаюць гэтае пытанне. Як матываваць, забіць, прымусіць чалавека на высокатэхналагічным абсталяванні павялічыць сваю прадукцыйнасць. У нас у краіне гэтай праблемы пакуль няма. У нас ёсць дысцыплінаваны, нерастрачаны чалавечы рэсурс, і наша задача - вызваліць гэты ўнутраны рэзерв», - падкрэсліў Мікалай Снапкоў.

Як раней перадаваў Тэлеграф, міністр эканомікі Беларусі 27 снежня 2011 года прадставіў праект Стратэгіі прыцягнення прамых замежных інвестыцый на перыяд да 2015 года. Паводле яго слоў, у аснову пакладзены «якасны аспект прыцягнення інвестыцый, які забяспечвае ўвоз у рэспубліку новых і высокіх тэхналогій, а інавацыйная мадэль развіцця эканомікі нашай краіны павінна стаць дамінуючай».



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# МАСТАЦКІ СВІСТ

УВЯДЗЕННЕ ПАСАДЫ АМБУДСМЭНА — РЭДКАЯ НАВІНА З РАЗРАДУ РАЗУМНЫХ. АЛЕ ЎСЕ РАГОЧУЦЬ. НА СУСТРЭЧЫ АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ СА СТАРШЫНЁЙ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА ПЯТРОМ МІКЛАШЭВІЧАМ БЫЛО ЗАЯЎЛЕНА АБ МАГЧЫМАСЦІ ЎВЯДЗЕННЯ Ў БЕЛАРУСІ ІНСТЫТУТА АМБУДСМЕНА — УПАЎНАВАЖАНАГА ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА.

Па законах жанру, ужо даволі вядомага Дзіму Паўлічэнку ў амбудсмены сасваталі. Галоўнае, каб ён назву новай пасады выгаварыў — і тады па ўсіх параметрах падыдзе: юрыст, ад зямлі, з вялікім і багатым досведам…

Або вось яшчэ кандыдат — вялікі абаронца правоў чалавека з дапамогай тэлебачання Яўген Новікаў. Ужо як ён стараецца, як выкрывае! Наслухаўшыся яго пранікліных прамоваў пра вар'яцкі рост цэнаў у Еўропе, я амаль бегла слаць пасылкі салідарнасці ў Брусэль, прыгнечанаму пралетарыяту. Так, на шчасце, своечасова ў рэдакцыі добры чалавек аб'явіўся, наш былы зямляк, цяпер — эмігрант. Расказаў, што і праўда хвалюецца Бельгія, наракае, незадаволеная — у сярэднім за год аж на 20 цэнтаў цэны павысіліся.

Увогуле, з талентамі мастацкага свісту, якімі валодаюць такія навікавы, з нас хутка будуць выбіваць слязу па няшчасных бедуінах, якім пяску ў пустыні не хапае. Затое тым, што ў сябе, у Беларусі, ужо стала небяспечна «з крыніцы вады напіцца» — яны не занепакояцца.

Таму калі вярнуцца да праўды жыцця, то саму па сабе ідэю ўвесці ў Беларусі пасаду амбудсмена — упаўнаважанага па правах чалавека — можна толькі вітаць. Праблема гэтая не проста наспелая, а ўжо пераспелая. Праўда, вырашыць яе ўвядзеннем пасады ўпаўнаважанага можна толькі пры ўмове, што амбудсменам стане чалавек з адпаведнай рэпутацыяй. Алесь Бяляцкі, напрыклад. Ці Гары Паганяйла. Ці Святлана Алексіевіч…

Чалавек, які будзе думаць не пра дзяржаўныя інтарэсы ў іх цяперашнім разуменні — каго пасадзіць, каго запалохаць, што забараніць, задушыць, заціснуць і як апраўдаць гэтыя дзеянні…

А пра абарону людзей ад такіх замахаў дзяржавы. Чалавек, які не будзе ў носе калупацца і паперкі перакладаць, калі ў турме здзекуюцца з палітвязняў, а наадварот, пачне дняваць і начаваць у гэтай турме, біць ва ўсе званы, будзіць прэзідэнта сярод ночы з патрабаваннем спыніць беззаконне.

Ніякі іншы амбудсмен Беларусі не патрэбны. Структур, пасад, саветаў самых розных псеўдаабаронцаў у нас і без таго дастаткова.

Вось, напрыклад, дэпутаты — знямелы голас народа. Цэлую камісію па правах чалавека ў Палацы прадстаўнікоў стварылі. І што? Гэтыя дзеячы адабралі ў людзей нават тыя правы, якія былі. Напрыклад, права выйсці на вуліцу і хоць бы дружна папляскаць чарговаму мудраму рашэнню ўласнай улады. У той жа час калі такіх абаронцаў паслухаць — дык яны дзень і ноч працуюць, нашы з вамі свабоды абараняюць.

І не адны яны такія. Імітацыя бурнай дзейнасці па рашэнні важных праблем у Беларусі ператварылася ў нейкі дурны спектакль. Мастацкі свіст зрабіўся элементам палітыкі. Усе страшна заклапочаныя, усе пры справе, нешта ствараюць, над чымсьці галаву ламаюць, нешта прапануюць, абмяркоўваюць, раяцца… Толькі атрымліваецца яшчэ горш. Пры гэтым усім зразумела, што ёсць абсалютна простыя і рэальна эфектыўныя рашэнні — было б жаданне нешта насамрэч мяняць.

Да прыкладу, 17 гадоў улада беспаспяхова змагаецца з карупцыяй, але чамусьці гэтыя кампаніі часта ператвараюцца ў банальнае звядзенне рахункаў і анархію праваахоўных органаў. А для пачатку ўсяго і трэба — прызначыць генпракурорам дасведчанага юрыста не са складу цяперашняй збітай кодлы, дзе ўсе даўно адзін з адным павязаныя. Напрыклад, былога суддзю Канстытуцыйнага суда Міхаіла Пастухова або яго калегу, Заслужанага юрыста Беларусі Валерыя Фадзеева. І мы здзівімся, як хутка яны разбяруцца, што там хто дзеліць, каго прыкрывае, каго падстаўляе, каго адмазвае… А як узрасце ў гэтым выпадку рэйтынг даверу да кожнага абвінавачання, падтрыманага пракуратурай! Як разам змоўкнуць тыя, хто скептычна крывіцца пры кожным згадванні антыкарупцыйных ініцыятываў!..

Або вось у судах у нас праблемы. Бязрукія, згодна з нашымі судовымі вердыктамі, пляскаюць у ладкі, а нямыя гарлапаняць матам. Але ведаў свет гэтую праблему, ведае і рашэнне. Таемным галасаваннем адвакатаў выбіралі новых кіраўнікоў судовай сістэмы і ўводзілі фінансавую адказнасць суддзяў за несправядлівыя прысуды. І ўсё!

Калі здаровая галава, то цудоўным чынам аздараўляецца і ўся сістэма. Тым больш калі суддзя ведае, што ў выпадку чаго прадасць сваю кватэру, без штаноў застанецца, але будзе выплачваць кампенсацыю таму, каго незаконна пасадзіў. Тады аўтаматычна і следства падцягваецца да належнага ўзроўню, і аператыўнікі вывучаюць закон.

Зразумела, што і пра ўпаўнаважанага па правах чалавека Міклашэвіч з Лукашэнкам таксама могуць гаварыць гадзінамі, месяцамі і нават гадамі. Але гэтае рашэнне на паверхні, таму не трэба свістаць. Мандат — Бяляцкаму! І толькі тады сціхне гамерычны рогат у зале.

**Святлана Калінкіна.**

САЛІДАРНАСЦЬ

# "РУКІ ЎЛАДАЎ БЕЛАРУСІ БУДУЦЬ У КРЫВІ, КАЛІ ЁН ПАМРЭ"

ПРЭЗІДЭНТ ЕЎРАПАРЛАМЕНТА (ЕП) МАРЦІН ШУЛЬЦ «УЗРУШАНЫ ПАГАРШЭННЕМ СІТУАЦЫІ З ДЭМАКРАТЫЯЙ І ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ». ПРА ГЭТА ЁН ЗАЯВІЎ 14 ЛЮТАГА Ў СТРАСБУРГУ ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ З КАМІСАРАМ ЕЎРАСАЮЗА ПА ПЫТАННЯХ ПАШЫРЭННЯ І ПАЛІТЫКІ ДОБРАСУСЕДСТВА ШТЭФАНАМ ФЮЛЕ, НА ЯКОЙ ЯНЫ АБМЯРКОЎВАЛІ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ, ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-СЛУЖБА ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕС У МІНСКУ.

*«Працяглая галадоўка, якую праводзіць актывіст апазіцыі Сяргей Каваленка, што знаходзіцца ў зняволенні, высвеціла парушэнні дэмакратычных прынцыпаў і непавагу да вяршэнства закона. Жыццё Каваленкі зараз знаходзіцца ў небяспецы з-за галадоўкі, якую ён праводзіць у сувязі з незаконным зняволеннем»,* — гаворыцца ў заяве.

Шульц заклікаў беларускія ўлады неадкладна і без усякіх умоў вызваліць Каваленку і аказаць яму ўсю неабходную медыцынскую дапамогу, перадае БелаПАН. *«Рукі ўладаў Беларусі будуць у крыві, калі ён памрэ»,* — падкрэсліў Шульц.

Ён таксама зноў заклікаў вызваліць і рэабілітаваць усіх палітзняволеных, сярод якіх два экс-кандыдаты ў прэзідэнты Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, вызітны праваабаронца Алесь Бяляцкі, апазіцыйныя актывісты Дзмітрый Бандарэнка, Мікалай Аўтуховіч, Дзмітрый Дашкевіч і іншыя.

*«Я таксама зноў паўтару мой персанальны зварот да прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай памілаваць Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія знаходзяцца ў камеры смяротнікаў па рашэнні Вярхоўнага суда, — сказаў Шульц. — Мы выступаем супраць смяротнай кары пры любых акалічнасцях і зноў заклікаем Беларусь, якая застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе прымяняецца гэты від пакарання, увесці мараторый».*

Шульц зазначыў, што 16 лютага Еўрапарламент будзе абмяркоўваць праблему прымянення смяротнай кары ў Беларусі, Егіпце і Японіі і выступіць з адпаведнымі рэзалюцыямі.

*«Мы глыбока перажываем, што пазіцыя ўладаў захоўвае адносіны паміж Беларуссю і ЕС замарожанымі, — сказаў Шульц. — Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць лепшага. Еўрапарламент рашуча падтрымлівае грамадзянскую супольнасць і дэмакратычныя памкненні беларускіх людзей, а таксама заклікае Мінск адказаць на прапанову ЕС па спрашчэнні візавых працэдур для беларускіх грамадзян».*

Нагадаем, актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Сяргей Каваленка быў затрыманы з снежні ў рамках крымінальнай справы па артыкуле 415 КК (ухіленне ад адбывання пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі). Яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Падставай для крымінальнага пераследу сталі чатыры парушэнні, якія Каваленка нібыта ўчыніў, адбываючы пакаранне па прыгаворы суда Кастрычніцкага раёна Віцебска. У маі 2010 года суд прыгаварыў яго да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне белчырвона-белага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска 7 студзеня.

Галадоўку Каваленка аб'явіў ў знак нязгоды са сваім затрыманнем. Жонка апазіцыянера Алена Каваленка са спасылкай на адваката сцвярджае, што галадоўка была прыпынена супрацоўнікамі СІЗА насільна 17 студзеня: Сяргею пачалі ўводзіць ежу праз зонд. Затым, паводле інфармацыі адміністрацыі ізалятара, Каваленка непрацаглы час раз у суткі прымаў ежу самастойна. Аднак на гэты час, паводле слоў адваката, ён поўнасцю адмовіўся прымаць ежу, у тым ліку і праз прымусовае кармленне, паведамляе праваабаронцы сайт **www.spring96.org.**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ КРЫТЫКУЕ РАЗВІЦЦЁ ВІЦЕБШЧЫНЫ

НА ПАСЯДЖЭННІ ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖКАНТРОЛЯ АЛЯКСАНДР ЯКАБСОН КРЫТЫЧНА ВЫКАЗАЎСЯ НАКОНТ РАЗВІЦЦЯ ПРАМЫСЛОВАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ РЭГІЁНА. УДЗЕЛЬНАЯ ВАГА ВІЦЕБШЧЫНЫ Ў ВУП БЕЛАРУСІ Ў 2011 ГОДЗЕ СКЛАЛА ТОЛЬКІ 8,6%.

Паводле інфармацыі БЕЛТА, Аляксандр Якабсон звярнуў асаблівую ўвагу на шэраг пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага рашэння ў 2012 годзе. На думку старшыні КДК, адно з іх датычыцца прыцягнення прамых замежных інвестыцый. «На эмісійным шляху развіцця эканомікі пастаўлены заслон, таму так важна прыцягненне замежных інвестыцый», - падкрэсліў Аляксандр Якабсон. У 2011 годзе перад вобласцю стаяла задача прыцягнуць $ 637млн., прыцягнута ўсяго 3,4% ад задання. У 2012 годзе заданне скарочана амаль у пяць разоў да $ 143 млн., аднак і выкананне гэтага плана зноў выклікае сумнеў, бо за студзень прыцягнута ўсяго $ 4,5 млн, канстатаваў кіраўнік КДК.

Магутны прамысловы патэнцыял Віцебскай вобласці выкарыстоўваецца не ў поўнай меры, лічыць Аляксандр Якабсон. Удзельная вага ў валавым унутраным прадукце Беларусі склала 8,6%. Прычыны гэтага, як лічыць кіраўнік кантрольнага ведамства, крыюцца ў нізкай рэнтабельнасці продажаў і нізкай прадукцыйнасці працы ў прамысловасці.

Нявырашаныя праблемы маюцца ў сельскай гаспадарцы. Па тэмпах росту аб'ёмаў вытворчасці ў сельскай гаспадарцы вобласць знаходзіцца ў лідэрах і займае 2-е месца па ўдзельнай вазе ў рэспубліканскім аб'ёме сельгасвытворчасці. Аднак яе эфектыўнасць невысокая. Аляксандр Якабсон звярнуў увагу на неабходнасць больш хуткага пераходу сельгасвытворчасці на якасны ўзровень, павышэння рэнтабельнасці, ураджайнасці, нарошчвання прыбаўленняў у вазе.

Асаблівую трывогу КДК выклікае работа па паляпшэнню ўрадлівасці глебаў у вобласці. Па дадзеных камітэта, мінулай восенню ў глебу ўнесена 26% угнаенняў ад патрэбы. Напярэдадні пасяўной запасы мінеральных угнаенняў складаюць усяго сёмую частку ад патрэбы. Сярод недахопаў у дзейнасці рэгіёну Аляксандр Якабсон таксама назваў рост пазыковых абавязацельстваў і запатрабаваў зрабіць больш жорсткім эканомію бюджэтных сродкаў.

**Л. Антонаў.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 37455, маб. +375292184739

**Падпісана да друку 15.02.2012 у 18.50.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.